Беларускі ПЭН Цэнтр

# Культурны супраціў у Беларусі

выпуск 18 (31)

11 траўня 2021

***«Гісторыю вайны падмянілі гісторыяй перамогі», – гэтая цытата з кнігі «У вайны не жаночы твар» Святланы Алексіевіч вельмі трапна апісвае ідэалагічную рэальнасць, у якой мы жывем не першае дзесяцігоддзе. Пастановачнае спаленне вёскі, чатыры тысячы чырвона-зялёных балонікаў, ветэраны, якіх вымушаюць прыходзіць на парад, але адмяняюць адзінаразовыя выплаты перад Днём Перамогі... Мы чакаем сапраўдны дзень перамогі – перамогі святла і любові.***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

**Мікалаю Дзядку, актывісту, блогеру, выстаўлена канчатковае абвінавачванне па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса. Яго справа накіраваная ў пракуратуру: незаконныя дзеянні ў дачыненні да гаручых рэчываў; арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак; заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Беларусі з дапамогай інтэрнэту.**



Фота: tut.by



**У Брэсце асудзілі яшчэ 14 чалавек па «справе карагодаў». За *«актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак»* прызначанае пакаранне ад 1,5 года «хатняй хіміі» да 1 года калоніі.**

**Сёлета 9 траўня на дзяржаўным узроўні адзначылі не толькі Дзень Перамогі, але і Дзень дзяржаўнага сцяга і герба. У Брэсце на гэты дзень улады запланавалі масавае мерапрыемства, на якое прымушаюць прыйсці школьнікаў і настаўнікаў – ужываючы ціск і пагрозы.**

**У Бабруйску на 9 траўня школьнікаў збіраюцца выбудоўваць у жывы калідор, патрабуючы ад іх мець з сабой балонікі чырвонага і зялёнага колераў.**

**У Гомелі школьнікаў і бацькоў прымушаюць прысутнічаць на святкаванні Дня Перамогі і мець з сабой сцяжкі альбо балонікі чырвонага і зялёнага колераў.**



У вёсцы Шунёўка напярэдадні 9 траўня прайшла **інсцыніроўка спалення вёскі** нацыстамі падчас Другой сусветнай вайны, ініцыяваная афіцыйнымі ўладамі. Варта адзначыць, што сёлета да святкавання Дня перамогі ўладамі запланаваны шэраг спрэчных мерапрыемстваў, на якія выдаткоўваецца вялікі бюджэт, напрыклад, запуск 4000 чырвона-зялёных балонікаў. Пры гэтым усе аднаразовыя выплаты ветэранам былі адмененыя, што праўда, іх паабяцалі ўсё ж зрабіць пасля таго, як рашэнне выклікала шырокі рэзананс у грамадстве.

Да сям'і Доўнар, што займаецца брэндам адзення **Honar** (у якім часта выкарыстоўваецца беларускі арнамент і іншыя сімвалы, традыцыйныя для беларускай культуры), прыйшлі з інспекцыяй, якая будзе правяраць адзенне брэнда на адпаведнасць дзярж стандартам.



**Юля Шабанава**, музыка, атрымала штраф 50 базавых велічынь за тое, што 22 красавіка ў пераходзе на вуліцы Леніна разам з музыкамі Лізаветай Пакетавай і Аляксеем Жураўлевічам спявалі песню «Разбуры турмы муры». Суд палічыў гэта пікетаваннем. Лізавета атрымала 11 сутак адміністратыўнага арышту, Аляксей – 25.

Працягваецца **пераслед чальцоў Саюза палякаў у Беларусі** і агульна прадстаўнікоў польскай нацыянальнай меншасці. За кратамі надалей застаюцца пяць чалавек: старшыня Саюза палякаў Анжаліка Борыс, а таксама журналіст і польскі актывіст Анджэй Пачобут з Гродна, Ірэна Бернацкая з Ліды, Марыя Цішкоўская з Ваўкавыска і Ганна Панішава з Брэста. Следчы камітэт Беларусі выклікае на допыты дзеячаў рэгіянальных аддзяленняў Саюза палякаў з Гарадзеншчыны і Берасцейшчыны. Андрэй Фралоў, аператар, які працуе для TV Polonia ў праграме «Nad Niemnem», быў затрыманы 4 траўня і атрымаў 15 сутак адмністратыўнага арышту, а таксама штраф 30 базавых велічынь.

**Мікола Папека**, паэт, які праходзіць абвінавачаным па «справе карагодаў», атрымаў адмову азнаёміцца з матэр'яламі справы па-беларуску, што з'яўляецца парушэннем закону.

**У бабруйскім тэатры** 8 траўня прайшоў канцэрт на ваенную тэматыку, у ім вядучую ролю выконвала Алена Ланская, спявачка, якая адкрыта падтрымлівае рэжым Лукашэнкі. Людзей, якія хацелі сысці з канцэрта раней, не выпускалі з залі.

# 2. СІМВОЛІКА

**Наталля Шэпель** і **Аляксандр Фурс** сталі фігурантамі крымінальнай справы за тое, што расклейвалі налепкі ды наносілі малюнкі белых і чырвоных колераў на будынкі.



Таксама працягваюць даваць **штрафы і суткі** за любыя прадметы бел-чырвона-белых колераў.




Спачатку на **бела-чырвонай трубе берасцейскай ЦЭЦ** намалявалі чырвона-зялёны сцяг, а цяпер вакол яго з'явілася падсветка.



**У Оршы** вучням некалькіх школ далі заданне ўпрыгожыць вокны колерамі афіцыйнай сімволікі альбо сфатаграфавацца на фоне чырвона-зялёнай сцяны ў адзенні такіх самых колераў і прынесці фота ў школу.

**Наталлю Сляпцову** абвінавацілі ў шасці эпізодах пікетавання і пакаралі 10 суткамі адміністратыўнага арышту. Яна малявала ў ліфце чырвоныя сардэчкі і выдзяляла чырвоным маркерам надпіс «Жыве Беларусь».

**Марыю Амасовіч** суд Віцебска пакараў на 20 сутак, **Лізавету Кірыенку** – на 15 сутак, а **Марыю Агіевіч** – на 10 сутак за фота з плакатам і бел-чырвона-белым сцягам, якое яны зрабілі 27 красавіка ў Віцебску.

**Уладзіміра Палуяна** ў Мінску 6 траўня затрымалі прадстаўнікі Аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі за восем бел-аранжава-белых сняжынак на акне, 7 траўня яму прысудзілі 10 сутак адміністратыўнага арышту.

**Ганну Апановіч** затрымалі ў Мінску 8 траўня, калі яна прыйшла пакласці ружу з бел-чырвона-белымі стужкамі да мемарыялу Раману Бандарэнку на Плошчы Перамен.

# 3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ



У Instagram з'явілася старонка з малюнкамі **Анастасіі Міронцавай**, палітзняволенай, асуджанай на два гады калоніі. У адным з «пастоў» яна піша:

«*Зато здесь я поняла и осознала, насколько я не ценила жизнь и банальные вещи, такие как свежий воздух, чистая вода (здесь она отвратная! От неё брови чешутся, а пить просто так вообще невозможно!), возможность пойти куда угодно и когда угодно…*»



Фота: svaboda.org

**Алесь Пушкін** праз адвакатку прасіў, каб яму ў СІЗА не перадавалі перадачы, бо суд будзе не раней як праз пяць месяцаў, а грошы патрэбныя на падтрыманне яго сям'і, асабліва дзяцей.

Пра **Максіма Знака** расказаў Алег Карабан, які сядзеў з ім у адной камеры. Максім дапамагае шматлікім зняволеным у напісанні розных хадайніцтваў па іх справах, тлумачыць важныя прававыя нюансы і г. д. Ён ніколі не губляе добрага настрою.



# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

**Наталля Задзяркоўская – былая працаўніца Міністэрства культуры, якая ў свой час брала ўдзел у распрацоўцы кодэксу «Аб культуры», а таксама іншых прававых актаў у культурніцкай сферы – замяніла Маргарыту Ляўчук, оперную спявачку, на пасадзе адказнай за сферу культуры Народнага антыкрызіснага кіравання.**





**Мікола Папека, паэт, сябар Беларускага ПЭН-цэнтра, які праходзіць па «карагоднай» справе ў Брэсце, настойвае на тым, каб крымінальная справа вялася па-беларуску і каб у справе пазначылі, што ён паэт, а не беспрацоўны.**



NikaEmerald



Alesha Stupin



gera_more_

**Спектакль «Іранская канферэнцыя» паказалі вольныя Купалаўцы 6 траўня.**






Гурт Dee Tree прэзентаваў альбом «Усю восень», прысвечаны беларусам, «якія адважыліся, тым, якія перамаглі абыякавасць і страх, тым, якія пазналі адзін аднаго ўлетку і ўвосень».



Вольга Якубоўская ахвяравала на дабрачынны аўкцыён карціну з сімвалам 2021 года і ўсім вядомымі коцікамі.



На Плошчы Перамен 7 траўня аднавілі мурал з дыджэямі,
а таксама з'явіўся бчб-сцяг са стужак!

Артысты Перамогі: Пётр Клюеў выступіў 8 траўня ў падтрымку няскораных артыстаў і артыстак.



# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Натальля Задзяркоўская**:

***«Шмат людзей пайшлі з міністэрства [культуры], бо не змаглі з ім [міністрам Маркевічам] працаваць з розных іншых прычынаў. Для яго чалавечы рэсурс, досвед, прафесіяналізм, на маю думку, значаць няшмат. Для яго галоўнае – чысціня шэрагаў, ідэалагічная ў першую чаргу».***



**Святлана Алексіевіч**:
***«Калі я пісала кнігу «Час second hand», я бачыла, колькі засталося людзей, якія звязвалі свае надзеі з сацыялізмам, якія не прымалі капіталізму. Яшчэ 10 гадоў таму, калі я напісала «Час second hand» – заключную кнігу свайго цыкла, мне здавалася, што мая энцыкляпедыя «чырвонага чалавека» завершаная, што наступаюць іншыя часы і «чырвоны чалавек» будзе іншым. Цяпер мне так не здаецца. Пасля таго, што я бачыла і перажыла ў Беларусі, не магу сказаць, што мы развіталіся з камунізмам, што «чырвоны чалавек» змяніўся. Камуністычная ідэя яшчэ жывая. Я працягваю дапісваць сваю мастацкую энцыкляпедыю».***



**Павел Гараднiцкі, лідар гурта РСП  і акцёр Беларускага свабоднага тэатра, які з’ехаў у Кіеў пасля 15 сутак арышту і праз немагчымасць выступаць у Беларусі:**

***«Пакуль ты знаходзішся ў Мінску, закансерваваны ў сваёй творчай прасторы, цябе толькі ў Беларусі і ведаюць. А часовы пераезд – гэта такі добры пендаль, каб пачаць знаёміцца з іншымі, паказваць ім сваю музыку. Пра гэта ў інтэрв'ю «жизнь малина»  нядаўна казаў Мікіта Моніч: гэта класная магчымасць для нашага музычнага, тэатральнага і кінарынкаў. Раней яны былі самі ў сабе, а цяпер маюць выхады ў Вільнюсе, Варшаве, Кіеве, Маскве, Піцеры і гэтак далей. Артысты наладжваюць культурныя сувязі, выходзяць з нашай андэграўнднай тусоўкі на больш шырокія абшары. А потым, калі пераможам, мы можам папросту вярнуцца ў Беларусь, і гэтыя сувязі застануцца».***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Міжнародны ПЭН-клуб**
**выказаў заклапочанасць**
**затрыманнем Аляксандра Фядуты.**



**Анджэй Дуда, прэзідэнт Польшчы, напісаў ліст да зняволеных у Беларусі палякаў:**

***«Палякі, якія жывуць у Беларусі, – гэта частка беларускага грамадства, яны ёсць паўнавартаснымі грамадзянамі Беларусі і маюць дачыненне да яе развіцця. Таму маюць права атрымліваць асалоду ад свабоды і надалей будаваць незалежную і дэмакратычную Беларусь», – гаворыцца ў лісце, адрасаваным Анджэліцы Борыс, Ірэне Бярнацкай, Ганне Панішавай, Анджэю Пачобуту і Марыі Цішкоўскай».***

**Пісьменніцкая, навуковая, журналісцкая супольнасць**
**па ўсім свеце патрабуюць вызваліць Аляксандра Фядуту.**

**Польскія рэжысёры Томаш Хацінскі і Мілаш Гаслоўскі знялі фільм «Уходи!» пра беларусаў, якія пасля выбараў мусілі ўцякаць ад пераследу ў Польшчу. Фільм таксама апавядае пра дыяспару беларусаў у Шчэціне, якая актыўна падтрымала землякоў і арганізоўвала сумесныя палітычныя акцыі ў Польшчы.**




**Партал VICE News**
**выпусцілі рэпартаж**
**пра Беларускі свабодны тэатр.**

# 7. МАНІТОРЫНГ ПАРУШЭННЯ КУЛЬТУРНЫХ ПРАВОЎ




**Беларускі ПЭН-цэнтр падрыхтаваў першую ў гэтым годзе справаздачу пра маніторынг парушэнняў культурных правоў і правоў чалавека ў дачыненні да дзеячаў культуры. За студзень-сакавік 2021 года зафіксаваны 291 выпадак парушэння правоў, што складае амаль 50% ад агульнага аб’ёму зафіксаваных выпадкаў за ўвесь 2020-ы год.**

# 8. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У траўні 3 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**
**Гэта дызайнер і архітэктар Расціслаў Стэфановіч (12 траўня), блогер Павел Спірын (20 траўня), студэнтка і мастачка Кася Будзько (25 траўня).**

**Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2**

